Наш адрас у Інтэрнеце: www.pahonia.promedia.minsk.by

# ПАГОНЯ

Чацвер
29 сакавіка 2001 г.
№ 13 (509)
Кошт 85 рублёў

## Хто зойме месца Аляксандра Дубко?

**Сёння адбудзецца сесія Гарадзенскага абласнога Савета дэпутатаў. Асноўным пытаннем сесіі будзе зацвярджэнне новага старшыні гарадзенскага аблвыканкама.**

Прадстаўляць новага боса народным выбраннікам будзе Аляксандр Лукашэнка. Паводле нашых звестак, у якасці кандыдатаў на крэсла «губернатара» могуць быць названыя выконваючы абавязкі старшыні аблвыканкама Уладзімір Саўчанка, альбо былы міністр унутраных справаў, а цяпер наменснік кіраўніка адміністрацыі Лукашэнкі Юрый Сівакоў.

У праграме візіту Аляксандра Лукашэнкі ў Гродна - наведванне Гарадзенскага медуніверсітэта, дзяржуніверсітэта імя Я.Купалы, вытворчага аб'яднання «Хімвалакно».

Ул. інф.

## Аўтобусы на Лідскай спыняцца не будуць

**З 28 сакавіка часова змененыя маршруты аўтобусаў 20, 22, 29. Разваротная пляцоўка зараз будзе не на вуліцы Лідскай, як было дагэтуль, а на прыпынку аўтавакзала.**

Прычына зменаў - у аварыйна-рамонтных працах па вуліцы Лідскай. Там на глыбіні чатырох метраў засмеціўся каналізацыйны калектар, і ля аўтобуснай разваротнай пляцоўкі працуюць экскаватары ды краны. Менавіта яны і перашкаджаюць руху грамадскага транспарта.

- Гэта ніякім чынам не паўплывае на расклад руху аўтобусаў, - паведаміў карэспандэнтцы ПАГОНІ Віктар Чыжык, наменснік дырэктара аўтобуснага парку.

Звычайны маршрут будзе адноўлены, паводле папярэдніх звестак, з 10 красавіка.

Юлія Дарашкевіч

## Буралкін перамог памежнікаў

**На мінулым тыдні ў Менску былі падведзеныя вынікі рэспубліканскага конкурсу на лепшы эскіз мемарыяльнага ансамбля воінам-памежнікам, які плануецца ўсталяваць у горадзе Гродна (гл. ПАГОНЮ N8 ад 22 лютага 2001 года).**

Першае месца ў конкурсе заняў праект кіраўніка Саюза мастакоў Беларусі Генадзя Буралкіна. Менавіта ён і атрымаў права выканання замовы па стварэнні мемарыяльнага ансамбля і будзе ўзнагароджаны грашовай прэміяй у памеры 200 тысяч рублёў. Усяго ў конкурсе прыняло ўдзел 18 архітэктараў і скульптараў з розных гарадоў Беларусі.

За праект Генадзя Буралкіна прагаласавалі восем з дванаццаці членаў журы. У падвядзенні вынікаў прымалі таксама ўдзел прадстаўнікі Дзяржаўнага Камітэта памежных войскаў. Аднак ім больш спадабаўся праект, які заняў у конкурсе толькі трэцяе месца.

Памежнікі вызначылі тэрмін усталявання мемарыяльнага помніка - 22 траўня бягучага года.

Рэгіна Станкуце



## НАДВОР'Е

**29, 30 сакавіка** - воблачна, з праясненнямі, без ападкаў, вецер паўднёва-ўсходні, 5-10 м/с. Тэмпература паветра 29, 30 сакавіка ўначы -4...-9, месцамі да -15; 29, 30 сакавіка ўдзень -1...+4.

# Як адсвяткавалі Дзень Волі ў Гродне

**Больш за дзве тысячы гарадзенцаў у нядзелю святкавалі Дзень Волі. Нягледзячы на непрыкрытыя пагрозы старшыні гарвыканкама Пашкевіча і абяцаныя ім правакацыі, 25 сакавіка людзі сабраліся на плошчы Леніна і годна ўшанавалі 83-я ўгодкі ўтварэння БНР. Усё мерапрыемства суправаджалі не менш як тры сотні міліцыянтаў, амапаўцаў і салдатаў унутраных войскаў. Паўгадзіны да пачатку мерапрыемства. Плошча Леніна па перыметру шчыльна ачэплена міліцыяй. За гарвыканкамам прыпаркавана шэсць спецаўтамашынаў. Бліжэй да 14.00 людзей пачынаюць выганяць з-пад помніка Леніну.**



- Замініравана, - з ухмылкай тлумачыць міліцыянт карэспандэнту ПАГОНІ. Святлана Нех з Маладой Грамады адмаўляецца зрушыцца з месца. Яе адзінокая постаць пасярод плошчы нейкі час муліць вочы ахоўнікам правапарадку. Затым тры міліцыянты літаральна валакуць яе праз плошчу і выпіхваюць за ачапленне. Карэспандэнтак ПАГОНІ міліцыянты ўвесь час замінаюць фатаграфаваць.





Людзей, якія прыйшлі святкаваць Дзень Волі, міліцыянты выцясняюць на тратуар ля цэнтральнага ўваходу ў парк Жылібера. Аднак натоўп увесь час павялічваецца. Людзі прыходзяць сем'ямі, з кветкамі, сцяжкамі і каляровымі шарыкамі. Студэнты вітаюцца са сваімі выкладчыкамі, а маленькі хлопчык распавядае сваім бацькам, што «настаўніца па маляванні трымае сцяг»... У неба ўзнімаецца бел-чырвона-белае палотнішча, прымацаванае да паветраных шарыкаў.

- Вось каго не змогуць арыштаваць! - рагоча барадаты дзядзька. Як быццам бы ў адказ, з'яўляецца некалькі дзесяткаў амапаўцаў. Яны яшчэ шчыльней блакуюць людзей ля агароджы парку. У руках арганізатараў мерапрыемства з'яўляецца вянок з калючага дроту. Ён прызначаўся для дзядулі Леніна, назаўсёды павернутага жалезным задам да гарвыканкама. Убачыўшы, што ўскласці гэты сімвал камуністычнай эпохі да помніка «правадыру» не атрымаецца, вянок кідаюць проста пад ногі міліцыянтаў.

Натоўп выстройваецца калонай і накіроўваецца ў бок Савецкай плошчы. Дарогу імгненна перакрывае трайны шыхт спецназаўцаў у шлемах. Міліцыянтаў так шмат, што яны займаюць значны адрэзак праезнай часткі. Пры гэтым яны перакрываюць і рух грамадскага транспарта. Выглядае так, нібыта міліцыя арганізавала несанкцыянаваны мітынг. Калона аказваецца ў ачапленні і не можа зварухнуцца ні ў адзін бок. Нехта прапаноўвае ўсім прысесці. Натоўп падхоплівае прапанову і некалькі сотняў чалавек садзяцца проста на тратуар.

- Зямля халодная, вы можаце прастудзіцца, - крычыць увесь час у мегафон міліцыянт.

Праз хвілінаў пятнаццаць такога супрацьстаяння калона арганізавана разварочваецца і рушыць праз плошчу Тызенгаўза на вуліцу Горкага, затым на Віленскую. Там арганізатары прымаюць яшчэ адну спробу звярнуцца на Савецкую. Але дарогу зноў блакуюць шыхты АМАПу і спецназаўцаў. Калона паварочвае на вуліцу Лермантава, адкуль амаль бесперашкодна трапляе да Каложы. У самым сэрцы горада, ля помніка «Пагоня на Грунвальд», да народа звярталіся з прамовамі лідары палітычных партыяў і арганізацыяў Гродна. Ушанавалі традыцыйна і памяць пра беларускіх паўстанцаў, усклаўшы кветкі да шыльды на сцяне Новага замку ў гонар касцюшкаўцаў. Кветкі таксама былі ўскладзеныя да помніка князю Вітаўту.

Юлія Дарашкевіч



### Гавораць удзельнікі святкавання

**Марыя**, патрапіла на акцыю выпадкова:

*- Я ні ў якой апазіцыі не знаходжуся. Але мне хочацца крычаць ад болю за сваё жыццё. Я атрымліваю 35 тысяч заробку. Муж і сын таксама працуюць, але мы не можам сябе нават пракарміць. Я за Лукашэнку галасавала дзвюма рукамі, верыла. А што зараз? Ён жа нас усіх банкрутамі зрабіў. Я ні за каго, я проста хачу хоць нешта сваім дзецям даць.*

### Гавораць удзельнікі святкавання

**Марыя Іванаўна Бартось**, настаўніца пачатковых класаў, на пенсіі:

*- Як можна спакойна бачыць тое, што спецназаўцы - нашыя сыны і браты - выступаюць супраць нас, нашых дзядоў і прадзедаў. У бацькоў нашых, калі загналі ў калгасы, пазабіралі ўсё - зямлю, жывёлу, хлявы. Абяцалі светлую будучыню. А мы зараз у свае 50-60 гадоў не можам нават кватэру атрымаць.*

### Гавораць удзельнікі святкавання

**Мікалай Заблоцкі**, інжынер-будаўнік:

*- Чаму я тут? Таму што сёння нашае беларускае свята. І чым больш людзей прыйдзе сюды, тым хутчэй зменіцца ганебная сітуацыя, якую мы сёння маем. Гэтыя хлопцы ўсё разумеюць, усё, што дзеецца ў нашай краіне. Яны проста атрымалі загад. Зменіцца сітуацыя, і яны будуць абараняць наш народ і дэмакратыю.*

# Віншаваньне ад Анатоля Пашкевіча

«Навіны» абласнога тэлебачаньня 20 сакавіка

Дыктарка Гардзейка:

*- Апазіцыйная група аб'яднаньня «Грамада» папрасіла згоду на правядзеньне 25 сакавіка мітынгу з нагоды гадавіны БНР на плошчы Леніна. Гарвыканкам, кіруючыся ўказам прэзыдэнта аб забароне падобных мерапрыемстваў у месцах масавага знаходжаньня людзей і паблізу адміністратыўных будынкаў, санкцыянаваў яго правядзеньне ў парку імя 40 год камсамолу. Аднак правакатары настойваюць на сваім. Да таго ж, мяркуюць прыкрыць так званую патрыятычную акцыю дзіцячымі целамі.*

Старшыня гарвыканкама Анатоль Пашкевіч:

*- Імі, як жывым шчытом, паспрабуюць прыкрыцца. Такі досьвед даўно вядомы. У маёй роднай вёсцы на Віцебшчыне, э-э, паліцаі й вылюдкі роду чалавечага, пры падтрымцы эсэсаўцаў, з такім жывым шчытом-дзецьмі й жанчынамі прыкрываліся, калі накіроўвалі іх на мінныя загараджальныя палі. Таму, напэўна, генетычна склалася так, што ў новых тутэйшых так званых, а-а, захоўваецца досьвед тых ваенных гадоў ужо ў трэцім пакаленьні.*

*Я хацеў бы зьвярнуцца да нашых гараджанаў. Канечне ж, мы ведаем, што быў такі гістарычны момант. Так, была Беларуская Народная Рэспубліка. Стваралася яна у 18-м годзе і стваралася на штыках кайзера Вільгельма. Сёньня такую ж рэспубліку хочуць стварыць, але ўжо на іншых штыках - на штыках NATO, які стаіць за 15 кіламетраў ад гораду Гродна.*

*Я заклікаю гараджанаў годна прайсьці яшчэ праз адно выпрабаваньне. Безумоўна, хто верыць, хто мае патрэбу у душэўнай падтрымцы той рэспублікі 83-гадовай даўнасьці - калі ласка. Мы вызначылі месца. Значыцца, могуць прымаць удзел. Гэта іхняя справа. Але я папрасіў бы адмежавацца дзяцей, зьберагчы сваіх дзяцей. Таму што будзе праведзена спроба сутыкненьня з праваахоўнымі органамі. Намі дадзена каманда ахоўваць гэты мітынг. Ахоўваць ад непрыемнасьцяў. Значыць, не дапусьціць сутыкненьня, не дапусьціць якіх-небудзь сутычак, боек і гэтак далей. Але калі будзе парушацца правапарадак, калі будзе пагроза жыцьцю іншых гараджанаў, канечне ж, мы выкарыстаем усю паўнату ўлады, прадастаўленай нам дзяржавай.*

*Я хацеў бы выказаць падзяку гарадзенцам за іх памяркоўнасьць (гэтае слова было сказана Пашкевічам па-беларуску, прычым - адзінае), іх пазіцыю на папярэдніх мітынгах, за іхні актыўны ўдзел у выбарах. Але і так, каб 25-га чысла мы таксама выявілі грамадзянскую пазіцыю. Дзякуй вам агромністы.*

Хто пісаў гэтыя тэксты - невядома. Наўрад ці, каб сам Анатоль Пашкевіч. У іх столькі хлусьні й непісьменнасьці, што чуць гэта адукаванаму чалавеку было і абразьліва, з аднаго боку, і няёмка. Адчувалася, што аўтар наслухаўся зімоўскіх-азаронкаў, у якіх даўно мазгі з'ехалі набакір. А слухаць 300 тысячам гарадзенцаў гэта давялося двойчы, паколькі выступ быў паўтораны па тэлеканалу «Культура». І маю запэўніць аўтараў: шмат жыхароў гораду было абурана выступам старшыні гарвыканкама.

Магчыма, спадар Пашкевіч не ўсьведамляе, што мае дачыненьне не зь вяскоўцамі Віцебшчыны і нават не з жыхарамі ўсходнебеларускага гораду Віцебску, дзе 25 сакавіка на вуліцу выйшла толькі 50 чалавек. Анатоль Пашкевіч даўно жыве ў Гродне, любіць параўноўваць яго з рознымі заходнееўрапейскімі «ватыканамі» й «швейцарыямі». Але гэта што датычыць архітэктуры. Што датычыць жыхароў, дык яны для яго - самыя звычайныя савецкія «вінтыкі» «вялікага механізму», як модна было гаварыць яшчэ нядаўна. Ён не ўсведамляе, што гарадзенцы - іншыя. Тут 20 міжваенных гадоў не было «роднай савецкай улады», калгасаў, 37-га году, ГУЛАГу, Палітбюро, Сталіна, Берыі ды Яжова, НКВД.

У Гродне тры універсітэты! Тут жывуць адукаваныя, эўрапэйскія людзі, у якіх яшчэ засталося пачуцьцё годнасьці, нацыянальнай сьвядомасьці, гістарычная памяць. У нашым горадзе знаходзіўся урад БНР, якому давялося ўцякаць ад бальшавіцкай навалы. Людзі пра гэта памятаюць, хаця цяперашняя «савецкая ўлада» ўжо забылася. І прымітыўнай хлусьнёй а-ля «першы нацыянальны тэлеканал» немагчыма зьбіць гарадзенцаў з тропу, яны ўсё адно не паверахць.

Ганьба - абзываць пачцівых грамадзянаў «правакатарамі», прычым, ажно за пяць дзён да падзеі. І навошта вярзьці лухту пра нейкія кайзераўскія штыкі? Не варта выстаўляць сябе ў недарэчным выглядзе на тэлеэкране. Трэба ведаць, што тэрыторыя Беларусі - будучай БНР была падзеленая напалам менавіта паміж кайзерам і вашымі ленінскімі бальшавікамі. А пазьней - паміж «савецкай Расеяй» і «буржуазнай Польшчай».

За адно дзякуй спадару Пашкевічу: словамі «будзе праведзена спроба сутыкненьня» ён папярэдзіў, што ўлады рыхтуюць 25 сакавіка пабоішча. А хіба - не? А для чаго тады з дзьвярэй аблвыканкама (як сымбалічна!) выбеглі каля 160 байцоў спецназу ў металічных шлемах? Прычым, ужо дагэтуль па перыметру пляц Леніна ахоўвалі 100 міліцыянтаў. А супраць сабранай публікі было ўжо выстаўлена дадаткова 70 міліцыянтаў, сярод якіх 40 амапаўцаў. Апошнія, дарэчы, мелі процівагазы, значыцца, рыхтаваліся выкарыстаць газы. А плюс да гэтага чакалі «працы» міліцыянты ў пяці турэмных фургонах і ў двух дзесятках службовых машынаў. Атрымліваецца, пад 400 чалавек. А колькі яшчэ было ў цывільным? Гэта што - для «аховы мітынгу»?

Не! Было відавочна, што ўлады баяцца палітычна сьвядомай часткі гарадзенцаў, хаця яна адносна невялікая. Было відавочна, што ўлады імкнуліся прадэманстраваць сілу, запалохаць. Было відавочна, што ўлады былі гатовыя ўчыніць пабоішча ў цэнтры гораду. Мажліва, іх стрымала толькі тое, што, як ні красамоўстваваў па тэлебачаньні Пашкевіч, 25-га прыйшла вялікая колькасьць студэнтаў і школьнікаў. Адначго з іх - 17-гадовага Дзьмітрыя Ягорава, карэспандэнта газэты «Биржа информации», міліцыянты зьбілі на горкі яблык і пратрымалі ў турэмным фургоне, прычым, у адсеку для сабакаў, ажно тры гадзіны. Спадзяюся, што іх будуць судзіць.

Усё гэта дае мне падставы сьцвердзіць: у тэлепрамове Анатоля Пашкевіча была знарок зробленая замена месцамі розных паняцьцяў. Не, ня школьнікі й студэнты, не інтэлігенцыя, выкладчыкі - інтэлект нацыі - з'яўляюцца нашчадкамі «паліцаяў і эсэсаўцаў». Безабаронныя грамадзяне, якія прыйшлі заявіць пра сваю прыхільнасьць да свабоды і незалежнасьці, не пабаяўшыся міліцэйскіх дубінак і газаў, былі тымі Вашымі аднавяскоўцамі, спадар Пашкевіч. Шкада, што Вы гэтага не зразумелі. Ролю паліцаяў і эсэсаўцаў выконвалі 25 сакавіка ў Гродне да зубоў узброеныя «ланцужныя сабакі рэжыму» - спецназ і г.д. Яны зьбілі толькі аднаго юнака, а гатовыя былі - па камандзе Вашай і Вам падобных пусьціць кроў усім іншым гараджанам - самым сьмелым і годным у Гродне, якія прыйшлі сем'ямі, зь дзецьмі. Яны пераадолелі свой страх. Слугі рэжыму баяцца будуць заўжды.

Сяргей Максімовіч

# Журналіста Дзмітрыя Ягорава міліцыянт біў нагамі

**Міліцыянты на Дзень Волі, 25 сакавіка, па-зверску збілі непаўналетняга Дзмітрыя Ягорава, журналіста газеты «Биржа информации». Зараз з дыягназам «удар грудзіны, удар левай пераарбітальнай вобласці, страсенне мазгоў», хлопец знаходзіцца ў аддзяленні нейрахірургіі Гарадзенскага шпіталя хуткай дапамогі. Наша карэспандэнтка наведала Дзіму ў шпіталі.**


Дзмітрый Ягораў на бальнічным ложку

- У 13.30 я прыйшоў на плошчу Леніна з фотакамерай і дыктафонам па заданню рэдактаркі, - гаворыць Дзмітрый. - Там я ўбачыў пяць ці шэсць так званых аўтазакаў, аўтамабіляў, у якіх перавозяць вязняў, ды яшчэ некалькі звычайных машынаў, «набітых» дзядзькамі ў пагонах. Я пачаў фатаграфаваць. Да мяне адразу падбеглі пяць міліцыянтаў і пачалі забіраць фотакамеру, спрабуючы дастаць стужку. Дурні, яны не маглі зразумець, што гэта лічбавы фотаапарат і зламалі яго. Затым яны пацягнулі мяне ў грузавік. Я крычаў, што я - журналіст, але міліцыянты не звярталі ўвагі.

Пасля таго, як Дзіма апынуўся ў машыне, яго пачалі біць па галаве і ў грудзі нагамі, паўтараючы «Ну што, фатограф!». Хлопец казаў, што ён непаўналетні і прасіў звязацца з бацькамі, але за гэта атрымаў яшчэ адзін удар нагой у жывот.

- Мяне паставілі ў позу «зоркі» тварам да клеткі, дзе сядзеў сабака, і пачалі, як загадаў прапаршчык, рабіць «няпоўны вобыск». Прашманалі кожны сантыметр майго цела, пры гэтым працягвалі збіваць. Пасля дасталі касету з дыктафона і зламалі. Дзікі прапаршчык, інакш я яго назваць не магу, занатаваў мае пашпартныя дадзеныя і прыгразіў, што калі з'явіцца нейкі артыкул у прэсе, то ён мяне «знойдзе».

Пасля гэтага прапаршчыку здалося, што ён мала паздзекаваўся над Дзімай, і ён загадаў хлопцу крычаць дэвіз міліцыі «Честь Отечества!».

- Я не пагадзіўся, - кажа Дзіма. - Тады ён пачаў мяне біць. Біў, пакуль я не згадзіўся паўтарыць за ім гэтыя словы. Аднак гэтага яму падалося мала, і прапаршчык яшчэ некалькі разоў прымусіў паўтарыць дэвіз, загадваючы рабіць гэта шторазгучней.

Пасля двухгадзіннага здзеку Дзіму адвезлі да гарадзенскай турмы і выпусцілі са словамі: «Такіх журналістаў мы ў труне бачылі!».

Адразу пасля таго, як яго адпусцілі, Дзіма накіраваўся ў рэдакцыю «Биржи информации», а затым - у траўмапункт. Там яму зрабілі рэнтгенздымкі галавы і грудзіны, завялі медычную картку.

Увечары ў 22.30 да хлопца дахаты прыйшлі міліцыянты і пачалі дапытвацца, што здарылася. Дзіма не захацеў з імі размаўляць. Тады яны папрасілі яго падпісаць паперку, у якой ён адмаўляецца рабіць заяву супраць міліцыянтаў. Журналіст не пагадзіўся.

На наступны дзень, 26 сакавіка, Дзіму паклалі ў шпіталь. Перад гэтым высветлілася, што ўсе рэнтген-здымкі і медычная картка з траўмапункту кудысьці зніклі.

- Зараз мяне троху «штарміць». Але мне лепш, чым тры дні таму...

Як паведамілі нам у рэдакцыі газеты «Биржа информации», яны накіравалі заяву начальніку Ленінскага РАУСу і ў пракуратуру Ленінскага раёна з патрабаваннем разабрацца з бандытамі ў пагонах. Нашыя калегі заявілі, што не пакінуць гэтую справу да тых часоў, пакуль вінаватыя ў гэтым дзікунстве не будуць пакараныя.

**P.S. Рэдакцыя «ПАГОНІ» далучаецца да гэтага законнага патрабавання. Вінаватыя ў збіцці журналіста, які выконваў свае прафесійныя абавязкі, павінны быць пакараныя!**

Юля Коцкая

# Дык хто тут паліцаі?

**Адказнасьць за зьдзекі над журналістам будуць несьці ня толькі фашысты ў міліцэйскай форме, але і тыя, хто спусьціў гэтых нелюдзяў з ланцуга.**

Здаровыя бугаі з пагонамі на плячох зьбівалі ўчарашняга школьніка. Білі ў машыне, схаваўшыся ад людзкіх вачэй. Білі худзенькага хлопца няпоўных 18-ці гадоў з журналісцкім пасьведчаньнем, які «асьмеліўся» фатаграфаваць схаваных ад людзкіх вачэй «аўтазакі», падрыхтаваныя на выпадак масавых затрыманьняў удзельнікаў Дня Волі.

У верасьні 1999 году Дзіма, тады яшчэ старэйшакласьнік крыху ваўчкаватага выгляду, прыйшоў да нас запісвацца ў лік удзельнікаў праекту «Школа маладога журналіста». За гэтыя паўтары гады Дзіма стаў адным зь лепшых маладых журналістаў гораду. Яго матэрыялы на самыя розныя тэмы можна сустрэць у кожным нумары «Биржи информации».

Іронія лёсу - 25 сакавіка журналіста білі тыя, хто не раз і не два быў героем матэрыялаў Дзімы, які на працягу сваёй зусім кароткай прафэсыйнай біяграфіі амаль у кожным нумары газэты пісаў пра тое, як нашыя міліцыянты змагаюцца са злачыннасьцю, затрымліваюць рабаўнікоў і забойцаў, якія разам з супрацоўнікамі ДАІ выяжджаў на начное дзяжурства...

Сумняваюся, што супэрмэны, якія таўклі нагамі хлопца, чыталі гэтыя матэрыялы. Больш таго - я не ўпэўнены ў тым, што яны ўвогуле ўмеюць чытаць. У іншым выпадку ведалі б, што ў гэтай краіне на паперы ёсьць законы, якія забараняюць не тое што катаваць, але і затрымліваць без усялякіх на тое падставаў людзей, асабліва тых, хто выконвае свой прафэсыйны абавязак, як гэта рабіў Дзіма.



Ня ведаю, якія высновы зробіць з гэтага здарэньня міліцэйскае начальства і пракуратура гораду, але калі злачынцы ў пагонах не стануць перад судом - ганьба і грош вартасьці такой міліцыі й такой пракуратуры.

Ёсьць у гэтай справе і яшчэ адзін падтэкст. Вы не забыліся, як старшыня гарвыканкаму Анатоль Пашкевіч з тэлеэкрана палохаў гарадзенцаў «паліцаямі ў трэцім пакаленьні» і заклікаў не пускаць дзяцей 25 сакавіка на вуліцу? Паліцаі, пра якіх вы з такім абурэньнем казалі, сапраўды сябе праявілі, пакінуўшы крывавыя сьляды на целе Дзімы Ягорава. А Вам часам нічога не баліць?

Не зьдзіўлюся, калі з вуснаў Пашкевіча альбо міліцэйскіх чыноў зьдзекі над юнаком-журналістам будуць пададзеныя як «сплянаваная правакацыя апазіцыі», пра якую так шмат гаварыла ўся «вертыкаль». На сумленьне гэтых самых «вертыкальных» даўно няма надзеі.

Але адсутнасьць сумленьня яшчэ нікому не дазваляла пазьбегнуць суда, зямнога альбо боскага...

Вітаўт Руднік

# За Дзень Волі будуць судзіць

**Удзельнікаў шэсця 25 сакавіка будуць судзіць. Пакуль склалі пратаколы на пяцёх гарадзенцаў, якіх праваахоўныя органы палічылі завадатарамі.**

Вадзіма Саранчукова, лідара мясцовай арганізацыі «Маладога Фронту», Святлану Нех, намесніцу старшыні Гарадзенскай «Маладой Грамады», і Сяргея Мальчыка, старшыню Гарадзенскага БНФ, ужо выклікалі ў Ленінскі РАУС. З усімі праводзілі тлумачальныя размовы афіцэры міліцыі.

- Перад маім носам трэслі Крымінальным Кодэксам намеснікі старшыні Ленінскага РАУСу: капітан Вялічка, падпалкоўнікі Шмакаў і Галаўко, - распавядае Святлана Нех. - Але склалі пратакол па адміністрацыйным парушэнні.

Святлану Нех і Вадзіма Саранчукова абвінавачваюць у арганізацыі несанкцыянаванай дэманстрацыі, а Сяргея Мальчыка - у актыўным ў ёй удзеле.

Склалі пратаколы і на Андрэя Мялешку, сябра Рады «Маладога Фронту», і на Аляксандра Міхальчыка, сябра Рады Гарадзенскага БНФ. Але позвы ў суд яны пакуль не атрымалі - абодва знаходзяцца зараз па-за межамі Беларусі.

Усе тыя, на каго склалі пратаколы, ужо прыцягваліся раней па аналагічным артыкуле. Напрыклад, Святлана Нех яшчэ не сплаціла штраф у 150 мінімальных заробкаў за арганізацыю пікету «Пераменаў» і «Маршу Свабоды» ў Гродне. Сяргей Мальчык адседзеў 10 сутак за леташні Дзень Волі і паклаў у дзяржаўную казну прыблізна 360 даляраў ЗША за арганізацыю гэтага свята ў 1997 годзе.

Суды распачнуцца заўтра. Справа Святланы Нех будзе разглядацца 30 сакавіка ў 14.00, Вадзіма Саранчукова - 2 красавіка ў 14.30, Сяргея Мальчыка - 3 красавіка ў 14.30. Працэсы будуць адкрытыя.

Юлія Дарашкевіч

# Гарадзенская крэветка: далікатэс або слёзы?

**ПАГОНЯ пісала ўжо пра тое, што ў студзені гэтага года каля шасцісот жанчынаў было звольнена з прадпрыемства па перапрацоўцы крэветак «Альформа», а сама «Альформа» закрылася. Як выявілася, справа мела працяг. Шаснаццаць жанчынаў будуць абараняць свае правы ў судзе.**

Былыя чысцільшчыцы крэветак падалі спасыскі ў Ленінскі раённы суд на кіраўніцтва «Альформы». Асноўныя прэтэнзіі, якія яны прад'явілі, датычаць магчымых парушэнняў Працоўнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь. Жанчыны патрабуюць «выплаціць зарплату за час вымушанага прагулу, выходную дапамогу» і «змены артыкула ў працоўных кніжках».

Калі казаць коратка, канфлікт выглядае наступным чынам. Чыстка крэветак - праца брудная і не вельмі карысная для здароўя. Аднак страціць і не яе для многіх - бяда. У цэху па перапрацоўцы гэтага марскога прадукту - стойкі спецыфічны пах, па якім «крэветачніцу» пасля работы можна было пазнаць у транспарце. Скура рук чырванее і трэскаецца. Былі на «Альформе» і затрымкі заробку, і забастоўка з галадоўкай прафсаюзніцаў. Як сцвярджае лідар працоўнага прафсаюза Ірэна Байрашэўская, цяжкія ўмовы працы неадназова даводзілі працаўніцаў да стану непрытомнасці. Стандартны адказ наймальніка на скаргі гучыць: «Не падабаецца - зыходзь, на тваё месца прыйдзе двое новых». Аднак, праўда ў тым, што ісці больш няма куды. І вось у адзін цудоўны дзень фірма закрываецца, і сотні жанчынаў аказваюцца на вуліцы без граша ў кішэні. Што можна было назапасіць з зарплаты ў 50 умоўных адзінак? Лёгка ўявіць адчай беспрацоўнай жанчыны. Да таго ж, большасць звольненых не мелі добрай кваліфікацыі, як і надзеяў на хуткае працаўладкаванне.

Пасля папярэдняй размовы са спазысчыцамі ў судзе ўдалося пагаварыць з адной з іх, спадарыняй Матусевіч. Яна дагэтуль не мае працы. Вільготны бляск у вачах, дрыготкі голас выдавалі, што жанчына гэтая апошнім часам больш плача, чым усміхаецца:

- Чым Вы займаецеся цяпер, на што жывяце?

- Дома сяджу, плачу вось кожны дзень. Муж калі і зарабіць, то капейкі - 20 тысяч. Ад біржы працы не магу знайсці працу - увесь час даюць паперкі з накіраваннем, але ўладкавацца па іх немагчыма, таму што месца няма.

Я не ведаю, што рабіць... Не ведаю. Буду жабраваць, напэўна, як многія цяпер...

Жанчыны лічаць, што іх звольнілі незаконна, без іх згоды. Яны не разумеюць, што гэта за законы такія, якія дазваляюць узяць і выкінуць работніка за вароты ў любы дзень, пакінуць без сродкаў існавання. Наша дзяржава шмат гаворыць пра сацыяльную абарону людзей, але ў жыцці ўсе гэтыя словы ператвараюцца ў мыльныя бурбалкі. Юрысты даводзяць, што цяпер у нас Закон можа абгрунтаваць усё, а чалавек застанецца безабаронны. У справе «Альформы» ў большасці жанчынаў былі заключаны пры прыёме на працу тэрміновыя дамовы. Тэрмін скончыўся - «всем спасибо, все свободны» - у свабодны палёт за новай шкоднай, нуднай, малааплочваемай працай. Бо іншай проста няма. Усім вядома, што галандцы наймалі нашых жанчынаў як танную рабочую сілу, у Галандыі такая работа каштуе значна даражэй. Але пытанне наконт законнасці масавага звальнення вырашыць суд, які павінен адбыцца 29 сакавіка. Адзінае бясспрэчнае парушэнне ПК РБ грамадскі абаронца жанчынаў, прадстаўнік БХК Аляксандр Аноўчанка бачыць у тым, што галандскі працадаўца і заснавальнік «Альформы» павінен быў папярэдзіць работнікаў пра закрыццё прадпрыемства за тры месяцы, чаго не зрабіў. Цяпер у выніку прызнання судом гэтага факта «Альформа» можа сутыкнуцца з вялікімі расходамі - кожная жанчына патрабуе немалую суму кампенсацыі.

На папярэдняй размове перад судом быў галоўны адказчык, былы дырэктар «Альформы» Аляксандр Лех. Яго пунктам гледжання мы пацікавіліся адразу пасля гутаркі ў зале суда:

- Кожны чалавек ведаў, што працуе, пакуль ёсць крэветкі. Я гаварыў пра гэта неадназова. Усе яны мелі выбар - застацца на гэтай рабоце ці сыйсці.

- Вы адчувалі адказнасць за людзей, якія ў Вас працавалі?

- Безумоўна, так. Аднак, я такі ж наёмны работнік, як і яны. За мною стаіць галандскі заснавальнік. Была крэветка, было эканамічна выгадна перапрацоўваць яе тут - мы працавалі. Не стала яе - нас закрылі. Неяк змагацца з гэтым немагчыма.

Аднак 16 жанчынаў, што вырашылі судзіцца, так не лічаць. Кропку ў канфлікце бакоў паставіць суд.

Алена Сіневіч

# Як у Скідалі моладзь бавіць час

**У гэтым невялікім гарадку, які да 1991 года быў гарадскім пасёлкам, у моладзёнаў на выхадных адна забава - дыскатэка, а ў будзённыя дні і зусім няма чым заняцца. Тут няма ніводнай кавярні, дзе моладзь магла б пасядзець без гарэлкі, піва, ці напоя «свайго прыгатавання», дзе замест цыгарэтаў было б марожанае, а замест гарэлкі - кубачак кавы. Тут ёсць кафэ «Уют», якое зусім не ўтульнае: абрусы аблітыя гарэлкай, прапаленыя цыгарэтамі, не першай свежасці. У гэтае кафэ маладыя людзі завітваюць летам. Бо дыскатэка праходзіць недалёка ад яго.**

Днямі адчынілася яшчэ адна піўнушка пад гучнай назваю - кафэ-бар «Шанс». Паўстае пытанне: які шанец там можна атрымаць? Шанец стаць алкаголікам? А мо наркаманам? Хто туды ходзіць? А ходзяць у тое кафэбар падлеткі і моладзь. А чаму яны туды ходзяць? Таму што больш няма куды. Кавярня, дзе акрамя піва нічога няма, працуе да 12 гадзін ночы.

Канкурэнцыю «Шансу» складае кафэ «Агат», якое таксама адчынілася нядаўна. І там таксама галоўным таварам з'яўляецца піва. Я ўжо не ўвязваю асаблівай увагі на рэстаран «Бярозка». Там ёсць усё - ад піва да гарэлкі. У каго не хапае грошай на бутэльку - купляюць на разліў. Але ў «Бярозку», якая працуе толькі да 10 гадзін вечара, ходзяць больш сталыя людзі. А моладзь лічыць гэты рэстаран не прэстыжным, таму і не ходзіць туды.

Пры ўсім пры гэтым у Скідалі няма ніводнай дзіцячай кавярні. Ды што кавярні. Нават кінатэатра ў горадзе няма. У былым кінатэатры «Камсамолец» круцяць дыскатэкі. Не стала камсамольцаў - не стала і кіно.

Крыху асобна ад Скідаля ёсць пасёлак Сахзавода. Ён трохі бағацейшы за горад. Таму і дыскатэкі там больш цывілізаваныя: песні круцяць на кампакт-дысках. Гэта вам не касеты з «Камсамольца». Кошт «сахзаводскай цывілізацыі» ўтрая даражэй за «Камсамолец».

Вось і ўсё, што мы маем. Падлеткам нічога не застаецца, як співаць. Жывем нібы ў Афрыцы, усіх сушыць смага. Піва ліецца ракою. А вось марожанае купіць нават улетку даволі цяжка.

Леся Беларуска




# Усе дзяўчаты хочуць гэтага...

**У суботу у малой зале Гарадзенскага драмтэатра пройдзе першы кастынг сярод прэтэндэнтак на карону Каралевы прыгажосці Міс-Гродна 2001.**

Сёлета ў конкурсе возьмуць удзел дзяўчаты не толькі з Гродна, але і з Ліды, Наваградка, Смаргоні, Ваўкавыска. На кастынгу прыкладна з сотні прыгажуняў будзе адабрана 20-25 дзяўчатаў, якія на працягу месяца будуць рыхтавацца да фіналу абласнога конкурсу прыгажосці. Прыадкрыем таямніцу патрабаванняў, згодна з якімі на кастынгу будзе фармавацца група фіналістак. Галоўнымі крытэрыямі стануць фізічныя гарманічныя дадзеныя: рост, прапорцыі 90-60-90, твар.

Цікавую думку адносна прычыны нязменнай папулярнасці конкурсаў прыгажосці выказвае арганізатар Міс-Гродна 2001 Ігар Ляговіч:

- У жанчыне закладзены гэты момант - паказваць сябе. Яна па прыродзе сваёй хоча сябе дэманстраваць, каб яе ацанілі. Менавіта ацэнка людзей для жанчыны вельмі важная. Таму дзяўчаты з ахвотай ідуць на конкурс. У мужчынаў - не так.

- Не перашкаджае арганізацыі імпрэзы мноства альтэрнатыўных конкурсаў прыгажосці, што праходзяць у Гродне?

- Не. Чым іх болей - тым больш гаворыцца пра жаночую прыгажосць - тым вышэй і цікаўнасць да нашага конкурсу.

Чаго не адняць у гарадзенскага конкурсу прыгажосці - дык гэта нязменнага дэмакратызму. Як кажуць у кулуарах, тут «любая дзяўчына з вуліцы можа стаць каралевай». Чаго і пажадаем самай абаяльнай і прывабнай.

Ганна Макоўская

# Шаравыя маланкі давялі Салаўёва да Каліфорніі

**Вучань 11-га класа фізіка-тэхнічнага ліцэя N19 горада Гродна Аляксандр Салаўёў атрымаў дыплом першай ступені на VI рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «БелЮнІёр-2001» і быў запрошаны прыняць удзел у міжнароднай канферэнцыі ў ЗША.**

Канферэнцыя «БелЮніёр-2001» прайшла на пачатку сакавіка ў Менску ў Політэхнічнай гімназіі. Яе арганізатарамі выступілі Беларускі дзяржуніверсітэт і Міжнародны экалагічны універсітэт імя Андрэя Сахарава.

У канферэнцыі прыняло ўдзел больш як 250 школьнікаў старэйшых класаў з розных абласных і раённых цэнтраў Беларусі. На канферэнцыі чыталіся даклады па наступных напрамках: фізіка, тэхнічная фізіка, матэматыка, інфарматыка, астраномія, экалогія, біялогія, хімія. Пераможцы атрымалі ганаровыя граматы і дыпломы 1-й, 2-й і 3-й ступеняў, якія забяспечаць маладым навукоўцам ільготы пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы краіны.

Гарадзенец Аляксандр Салаўёў быў узнагароджаны дыпломам першай ступені па фізіцы за свой даклад на тэму «Мадэліраванне фрактальных структураў» (а больш папулярна кажучы, яго праца была прысвечаная шаравым маланкам). Акрамя Аляксандра, у канферэнцыі прыняло ўдзел шэсць гарадзенскіх школьнікаў, вучняў матэматычнага ліцэя N1 і фізіка-тэхнічнага ліцэя N19.

У якасці незалежных назіральнікаў на канферэнцыі «БелЮніёр-2001» прысутнічалі прадстаўнікі вядомай амерыканскай кампаніі «Intel» - сусветнага лідара ў вытворчасці мікрапрацэсараў. Мэтай іх удзелу ў канферэнцыі было вылучэнне некалькіх таленавітых маладых навукоўцаў з Беларусі дзеля таго, каб запрасіць іх на міжнародную 52-ю навуковую канферэнцыю «Intel International Science and Engeneering Fair», якая пройдзе 6-12 траўня ў амерыканскім горадзе Сан-Хасэ (Каліфорнія).

Запрашэнне атрымалі тры беларускія школьнікі, сярод якіх - адзіны прадстаўнік Гарадзеншчыны, Аляксандр Салаўёў. Усяго ў міжнароднай канферэнцыі прымуць удзел каля тысячы маладых навукоўцаў з 48-мі штатаў ЗША і 36-ці краінаў свету. Пераможцы атрымаюць гранты, якія дадуць ім магчымасць працягнуць вучобу ў ЗША.

Рэгіна Станкуце

# Вясна. Вакацыі. Кіно!

**У гарадзенскіх школяроў - вакацыі. Яшчэ чатыры дні без гіпатэнузаў, яблыкаў Ньютана і дзяжурства ў сталоўцы. Для рамантыкаў, якія сярод іншых відаў адпачынку аддаюць перавагу кіно, кінатэатр «Чырвоная зорка» падрыхтаваў адмысловую праграму фільмаў - «У свеце казак і прыгодаў».**

30 сакавіка, у пятніцу, старшакласнікі могуць прыйсці на прыгодніцкую камедыю «Не бойся» (Расея). 31 сакавіка, у суботу, самыя маленькія запрашаюцца на чэшскую казку «Фанабэрыстая каралева». 1 красавіка, у нядзелю, для 10-11-гадовых школяроў будзе прапанавана амерыканская камедыя «Самы дарагі прымат».

Усе фільмы пачнуцца ў 10.30.

Апрача таго, штодзень будуць «круціць» новы дыснэеўскі мультфільм «Лэдзі і валацуга-2». Пачатак - у 10.30 і 12.30.

Любы з сеансаў будзе каштаваць 100 рублёў.

Юлія Дарашкевіч

# За два гады чыгуначныя білеты падаражэлі ў 22 разы!!!

**З 20 сакавіка ў чарговы раз падаражэлі чыгуначныя білеты - у цягніках унутрырэспубліканскіх зносінаў, на 40 працэнтаў. З кастрычніка мінулага года гэта ўжо чацвёртае падаражанне, змяняюцца толькі «накірункі» - то на білеты за межы Беларусі, то па тэрыторыі толькі Беларусі.**

Увогуле, за перыяд з 30 сакавіка 1999 года па 29 сакавіка 2001 года кошт праезду на чыгуначным транспарце па тэрыторыі Рэспублікі Беларусь (унутрырэспубліканскі тарыф) павялічыўся ў 21,72 раза. Такім чынам, амаль у 22 разы!!!

У красавіку 1999 года ПАГОНЯ аналізавала сітуацыю, якая склалася на той час з цэнамі на чыгуначныя білеты. У артыкуле Сяргея Міронава «За глыток «Holsten» да Менска» праводзілася параўнанне суадносінаў цаны бутэлечкі вядомага піва і кошту чыгуначнага білета па маршруту Гродна-Менск (гл. **ПАГОНЮ N24 ад 6 красавіка 1999 года**). 30 сакавіка 1999 года білет у плацкартным вагоне каштаваў 186000 беларускіх рублёў, а бутэлечка «Holsten» - 654000. Аўтар указанага артыкула паказаў «несувымернасць» нізкага кошту білета «Гродна-Менск» і цаны бутэлечкі піва.

Сёння білет у плацкартным вагоне «Гродна-Менск» каштуе 4039 беларускіх рублёў, а бутэлечка «Holsten» - 795 рублёў. Суадносіны: пяць бутэлек піва - адзін білет, замест больш як трохразовай паездкі Гродна-Менск (Менск-Гродна) за бутэлечку «Holsten» у сакавіку 1999 года быццам бы сувымернасць кошту «адпаведных» паслуг і тавару дасягнутая. Аднак, як жа такі важны эканамічны паказчык, як заробная плата грамадзянаў Беларусі?

За перыяд з сакавіка 1999 года па сакавік 2001 года сярэдні заробак па краіне павялічыўся з 15000 беларускіх рублёў (з улікам дэнамінацыі на першае студзеня 2001 года) да 90000 беларускіх рублёў. Гэта значыць, у шэсць разоў. А кошты на чыгуначныя білеты ўнутрырэспубліканскага прызначэння падаражэлі ў 22 разы. Такім чынам, рэальная магчымасць грамадзянаў Рэспублікі Беларусь карыстацца ўнутры рэспублікі паслугамі чыгуначнага транспарту знізілася больш як у 3,5 раза. Гэта азначае, што калі б вы маглі сабе дазволіць з'ездзіць да сваякоў адзін раз у год, то сёння - адзін раз за тры з паловай гады...

Тым не менш, кіраўніцтва краіны на чале з А.Лукашэнкам імкнецца да магічнай лічбы 100 (даляраў ЗША) маючы на ўвазе сярэднюю заробную плату. Але які ж сэнс такога памкнення? Калі за 38 даляраў ЗША - сярэдні заробак у Беларусі ў 1999 годзе - абывацель мог набыць тавараў і скарыстацца паслугамі ў Беларусі ў 3,5 раза болей, чым за сённяшнія «сярэднія» 70 даляраў ЗША. А што ж будзе, калі краіна прыйдзе да магічнай лічбы «100»? Мабыць, у пяць, шэсць альбо сем разоў гэтыя суадносіны павялічацца.

А білет у плацкартным вагоне па маршруту «Гродна-Менск» будзе каштаваць ужо 6000-7500 беларускіх рублёў. Вось вам і магія лічбаў.

**Кацярына Зволін**

# Хлеба будзе менш?

**Спецыялісты ўпраўлення сельскай гаспадаркі Карэліцкага раёна Гарадзенскай вобласці не выключаюць змяншэння сёлета ўраджаю збожжавых у гаспадарках раёна на 20-30 працэнтаў, а кармавых траў - на 30-40 працэнтаў. Гэта можа адбыцца, калі рэгіён не будзе забяспечаны ў неабходным аб'ёме ўгнаеннямі.**

На сённяшні дзень Карэліцкі раён забяспечаны азотнымі тукамі толькі на 22 працэнты ад неабходнага і на 16 працэнтаў - фосфарнымі ўгнаеннямі. Акрамя таго, на сярэдзіну сакавіка ў мясцовых гаспадарках заставалася толькі 76 тон дызельнага паліва і 31 тона бензіну, пры тым што для нармальнай хады пасяўной неабходна 1 500 тон дызпаліва і каля 800 тон бензіну.

**Павал Мажэйка**

# Кудырку выказваюць недавер

**У Ашмянах - канфлікт паміж заканадаўчай і выканаўчай уладай. 22 дэпутаты раённага савета выказваюць недавер старшыні райвыканкама Вітольду Кудырку. Форма выказвання - ліст, які быў накіраваны на адрас прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і ў «Народную газету». Адзін з яго ініцыятараў, намеснік дырэктара ашмянскай сельгасхіміі і дэпутат райсавета Міхаіл Новік, адмовіўся расказваць па тэлефоне пра тое, што падштурхнула да напісання ліста. Паведаміў толькі, што не без умяшальніцтва дэпутатаў у ашмянскім райвыканкаме ўжо другі тыдзень ідзе расследаванне, якое праводзяць супрацоўнікі Абласнога аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю.**

Крыху больш разгаворлівым быў яшчэ адзін з падпісантаў, дырэктар рамонтна-будаўнічага прадпрыемства «Гродбытсэрвіс» Юрый Квіткоўскі. Ён сказаў, што ў іх раёне на ўзроўні ўлады прадпрыемствам не аказваецца ніякай дапамогі, кожны сам б'ецца са сваімі праблемамі, а ўлада ўхілілася ад іх вырашэння. Пры гэтым іх абавязваюць рашаць дзяржаўныя задачы. Напрыклад, акцыянернае таварыства «Гродбытсэрвіс» (былое дзяржпрадпрыемства) будуе аб'екты жыллёва-камунальнай гаспадаркі, фельчарска-акушэрскія пункты на вёсцы, гэта значыць, выконвае дзяржзаказ, а аплаты за сваю працу (грошай з бюджэту) не атрымлівае.

Ліст быў адпраўлены дэпутатамі ў мінулы чацвер. Спадару Новіку з адміністрацыі прэзідэнта паабяцалі, што пытанне будзе вырашана. Ашмянскія дэпутаты спадзяюцца на змену кіраўніка адміністрацыі раёна.

**Ул.інф.**

# Гарадзенскія студэнты практыкуюцца ў Еўропе

**Лепшыя студэнты-чацвёртакурснікі Гарадзенскага дзяржаўнага аграрнага універсітэта з 15 красавіка будуць праходзіць вытворчую практыку ў Англіі, Нямеччыне, Ірландыі, Швейцарыі і Польшчы. Каля шасці месяцаў студэнты будуць вывучаць досвед працы калектыўных і фермерскіх гаспадарак замежжа.**

**- Гэтая паездка праходзіць у рамках запланаванай вытворчай практыкі студэнтаў нашага універсітэта, - распавядае Аляксандр Свірыдаў, загадчык аддзела замежных сувязяў Гарадзенскага дзяржаўнага аграрнага універсітэта. - Але паедуць, вядома, не ўсе, а толькі лепшыя.**

**Ахвотных патрапіць на практыку за межы Беларусі ў гэтым годзе каля 200 чалавек. Але адбор пройдуць (ён яшчэ працягваецца) толькі 120-130 чалавек. Крытэрыямі выбару ўдзельнікаў з'яўляюцца сярэдні бал «4» і вышэй, веданне ангельскай мовы ці мовы прымаючай краіны, а таксама маральная ўстойлівасць. Апошняе азначае, што ваша прозвішча павінны зацвердзіць староста групы, дэкан факультэта і прарэктар па выхаваўчай працы.**

**Адпаведна дамове з прымаючай замежнай арганізацыяй, студэнтам забяспечваецца бясплатнае пражыванне і харчаванне, а таксама кішэнныя грошы, якіх хапае не толькі на піва і чыпсы. Праезд жа аплочваецца альбо часткова, альбо ўвогуле не аплочваецца...**

**Спадзяемся, што праца ў замежных гаспадарках дадасць досведу ды імпэту нашым студэнтам, і яны, нарэшце, зробяць нашу сельскую гаспадарку прыбытковай.**

**Юля Коцкая**

# Кошты на катэджы зноў знізіліся

**З пачатку лістапада 2000 года па 27 сакавіка 2001 года кошты на дамы і катэджы на Гарадзеншчыне знізіліся ў сярэднім на пяцьшэсць працэнтаў.**

Пачынаючы з 1995 года, ПАГОНЯ аналізуе стан справаў на рынку нерухомай маёмасці. І сёння мы можам адзначыць, што такіх нізкіх цэнаў на дамы і катэджы на Гарадзеншчыне не было. Нізкі попыт, а менавіта рэальны нізкі попыт - гэтаму прычына.

Выходзячы з дадзеных гарадзенскіх рыэлтарскіх фірмаў па прапановах на продаж і па «прапановах» на набыццё дамоў і катэджаў, ахвотных прадаць у чатыры(і болей) разы больш, чым купіць.

Як і шэсць гадоў таму, кошт дома ці катэджа залежыць:

1) ад месцазнаходжання (як у самім горадзе, так і ў прыгарадзе);

2) ад узроўня гатоўнасці (у асноўным, у працэнтных суадносінах);

3) ад памеру ўчастка;

4) ад тыпу дома (цагляны, панэльны, драўляны);

5) ад плошчы (як жылой, так і агульнай);

6) ад камунікацыяў (водаправод, ацяпленне, каналізацыя, газ, тэлефон) ды многія іншыя фактары.

На Беларусі самыя дарагія дамы - у сталіцы. Яны, як правіла, на 30-50 працэнтаў даражэйшыя, чым у абласных цэнтрах. Сярод апошніх больш дарагія дамы ў Брэсце і Гродне, у параўнанні з Віцебскам, Магілёвам, і нарэшце, у параўнанні з Гомелем.

На сённяшні дзень у Гродне драўляны дом з непячным ацяпленнем і водаправодам, жылой плошчай 60-80 квадратных метраў і гэтак далей, можна набыць за 11-18 тысяч даляраў ЗША. Двухпавярховы цагляны (поўнасцю) катэдж з усімі камунікацыямі, з аналагічнай жылой плошчай абыдзецца ў 19-28 тысяч даляраў ЗША. Калі жылая плошча складае 80-120(і болей) квадратных метраў, і дом размешчаны не на ўскрайку горада, то кошт можа складаць 70 тысяч даляраў ЗША. Аднак, згодна з меркаваннем рыэлтараў, 40 тысяч даляраў ЗША - гэта максімальная сума, на якую можа разлічваць патэнцыйны прадавец добрага катэджа. За большую суму - няма патэнцыйных пакупнікоў. Тым не менш, сёння ў Гродне ёсць прапановы на продаж катэджаў за 78000, 75000, 65000 даляраў ЗША, у пасёлку Паўднёвы - за 80000, 75000, 60000 даляраў ЗША.

Апрача продажу дамоў са 100-працэнтнай гатоўнасцю, на рынку нерухомай маёмасці больш за палову дамоў (катэджаў) прадаецца ў «незавершаным будаўніцтве». На гэтым сегменце рынку зніжэнне коштаў такое ж, як і наогул на рынку нерухомай маёмасці. 30-40 працэнтаў гатоўнасці катэджа ацэньваецца ад дзвюх да шасці тысяч даляраў ЗША, 80-90 працэнтаў гатоўнасці - ад 14 да 21 тысячы даляраў ЗША.

Апошнім часам значна павялічылася прапанова на продаж катэджаў, незавершанае будаўніцтва, зямельных участкаў пад будаўніцтва ў пасёлках Берагавы, Зарыца-1, Зарыца-3, Каробчыцы, Чэхаўшчына. У параўнанні з цэнамі на аналагічныя прапановы ў Гродне, кошты на катэджы ва ўказаных прыгарадных мікрараёнах забудовы на 30-50 працэнтаў ніжэй.

Безумоўна, для сённяшняга беларускага абывацеля з сярэднім заробкам у 70 даляраў ЗША, катэдж - гэта мара. Прычым, напэўна, бліжэйшым часам неажыццявімая. Тут бы хоць аднапакаёвую кватэру набыць, не то што домік ці катэдж.

**Максім Жмінда**

# Вуліца Паліграфістаў - вуліца Гандлёвая

**Як паведаміў ПАГОНІ дырэктар акцыянернага таварыства «Гандальсэрвіс» Ігар Тарасенка, у траўні 2001 года ў Гродне па вуліцы Паліграфістаў замест абрыдлага ўсім «блышынага рынку»** будуць арганізаваныя добраўпарадкаваныя гандлёвыя рады.

- Зараз архітэктары інстытута «Грамадзянпраект» распрацоўваюць праект абнаўлення вуліцы Паліграфістаў, - распавядае Ігар Тарасенка. - Пасля таго, як будзе адрамантаваная вуліца Паліграфістаў, на ёй будуць усталяваныя гандлёвыя рады. Такім чынам, гандляры змогуць размясціць свой тавар па абодва бакі прылаўкаў. Схіл гары, які вядзе да чыгуначнага палатна, будзе агароджаны. Не застанецца без увагі і другі бок вуліцы (каля былой медвучэльні): там будуць усталяваныя гандлёвыя павільёны.

Хто будзе выконваць усё гэта, пакуль што невядома. АТ «Гандальсэрвіс» аб'явіла конкурс на правядзенне рамонтна-будаўнічых працаў, якія павінны быць распачатыя ў траўні 2001 года.

А пакуль на двары - сакавік. І да траўня яшчэ добрых паўтара месяца. Гэта значыць, што на працягу гэтых шасці тыдняў нічога не зменіцца: смецце так і застанецца валяцца пад нагамі, а людзі так і будуць прадаваць свой немудрагелісты тавар, раскладваючы яго проста на тратуары.

**Вікторыя Станкевіч**

# Рабочых вырашылі патурбаваць

**23 сакавіка, самая буйная прафсаюзная арганізацыя Гарадзенскай вобласці, Незалежны прафсаюз Гарадзенскага вытворчага аб'яднання «Азот» пачала праводзіць сярод супрацоўнікаў прадпрыемства анкетаванне. Мэта - высвятленне надзённых праблем і шляхоў іх вырашэння, тых, што сёння найбольш хвалююць рабочых, як на самім прадпрыемстве, гэтак і ў горадзе.**

Паводле слоў старшыні Незалежнага прафсаюза ВА «Азот» Сяргея Антусевіча, анкетаванне рабочых адбываецца ва ўсіх рэгіёнах Беларусі, дзе ёсць структуры гэтага прафсаюза. Пасля збору анкет уся інфармацыя будзе перададзеная ў Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў. Як паведаміў Сяргей Антусевіч, па выніках апытання плануецца правядзенне сумеснага пасяджэння БКДП і Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай, на якім будуць выпрацаваныя агульныя падыходы да прафсаюзнай дзейнасці.

**Павал Мажэйка**



ПЯРЭСТЫ КУТ

# «Гродна-93» не дапамаглі нават родныя сцены

**На жаль, але ж другі адборавы тур у групе «Е» чэмпіянату Паўночна-Еўрапейскай Баскетбольнай Лігі «Nebl Cballenge Cup», які скончыўся ў аўторак у Гродне, для гарадзенскай баскетбольнай каманды «Гродна-93» быў апошнім у гэтым сезоне. Гарадзенцам давялося развітацца з марай пра «Фінал чатырох» і, разам з тым, з ПЕБЛам.**

Гарадзенскія баскетбалісты ўжо ў першы дзень гульнявога туру на вачах сваіх прыхільнікаў, якія забілі ўсе магчымыя куткі ў спарткомплексе «Вікторыя», бязвольна саступілі нямецкай камадзе «Олівер» з горада Вюрцбург.

Нягледзячы на шматлікія памылкі як у абароне, так і пры завяршэнні атакаў "дзевяноста трэція", дзякуючы выдатнай гульні іх цэнтравога Рамана Сафронава, у першыя восем з паловай хвілінаў гульні ўтрымлівалі лік у межах дасягальнасці. Гарадзенцы нават з другой па шостую хвіліну вялі ў ліку 2:3, 2:5, 2:6. Першы і апошні раз у гэтай сустрэчы.

Правальныя другая і трэцяя чвэрці гульні, калі нямецкія баскетбалісты пайшлі ў адрыў на 20 ачкоў, канчаткова развеялі ілюзію на станоўчы выхад гульні для «Гродна-93» у гэты дзень. «Олівер», адарваўшыся ў ліку, пачаў гуляць спакойна, разняволена, з добрай рэалізацыяй усіх кідкоў. Гарадзенцы спрабавалі скараціць лік. Але ўсе іх намаганні сталіся няўдалымі.

Было відавочна, што «Олівер» быў мацней, можа, толькі ў гэты дзень, за «Гродна-93». Яны перасягалі гарадзенцаў па ўсіх кампанентах гульні: па думках, хуткасці, дакладнасці, падборах на абодвух шчытах, нават у жаданні перамагчы.

Гарадзенскія баскетбалісты ў гэтай гульні не здолелі знайсці сваю гульню. Алег Квашчук, якога мы ведаем як хітрага, настырнага, выніковага баскетбаліста, быў сваім ценем. Дальнабойная артылерыя «дзевяноста трэціх» - Жармухамедаў, Клемезь, Пынцікаў - дакладна трапілі ў цэль, з некалькі дзесяткаў спробаў, усяго пяць разоў за ўсю гульню. І толькі Раман Сафронаў прадэманстраваў сваю сталую, выніковую гульню. Наш цэнтр быў самым выніковым у складзе сваёй каманды (набраў 18 ачкоў), за што і быў прызнаны лепшым.

Быў ён адным з лепшых і ў наступны дзень, калі «Гродна-93» сустракалася з камандай УСК «Эрпэт» са сталіцы Чэхіі, у матчы за трэцяе месца. Пражская каманда таксама саступіла ва ўпартай барацьбе ў паўфінале санкт-пецярбургскаму «Спартаку».

І гэты матч гарадзенцы распачалі нярвова і напружана. Упартыя спробы здзейсніць рывок не прыносілі поспеху ніводнай камандзе амаль да апошняй чвэрці. За дзве секунды да заканчэння трэцяй 10-хвілінкі Андрэй Клемезь, у трэці раз у гульні (гэта ён яшчэ зробіць двойчы), закінуў трохачковы, які і вывеў гарадзенцаў наперад 57:59, распачаўшы разгром чэхаў. Чаго адразу не зразумелі самі чэхі.

У чацвёртай чвэрці, дзякуючы майстэрству трох К - Клемезя, Крышчыка і Квашчука - «Гродна-93» за пяць хвілінаў зрабіла лік 70:91. Гэта і вырашыла вынік гульні. Апошнюю кропку ў сустрэчы паставіў той жа Квашчук, які набраў 13 ачкоў у апошняй 10-хвілінцы. За што яго і прызналі лепшым у складзе гарадзенцаў.

Пераможцам групы «Е» стаў «Спартак», які ў фінальнай гульні перамог «Олівер» з лікам 87:68.

На прэс-канферэнцыі пасля другой гульні галоўны трэнер «Гродна-93» даў ацэнку гульням сваёй каманды ў гэтым турніры.

*- У нас ёсць велізарнае жаданне гуляць у ПЕБЛ. Але ж нам зараз крыху чагосьці не хапае. Сёння «Гродна-93» значна лепей згуляла, чым учора, калі нашыя баскетбалісты перахваляваліся. Не скажу, што нямецкая каманда значна лепшая за нашу. Але ж па мінулай гульні атрымалася гэта так. Яны заслужана нас перамаглі.*

*Сёння мы значна лепей згулялі. Баскетбалісты разняволіліся, пабеглі, пачалі забіваць здалёк. Стала атрымлівацца гульня ў трохсекунднай зоне. Не кажу, што гульня была ідэальная. Але па якасці яна была значна лепшай за першую.*

*Для таго, каб гуляць добра, трэба гуляць на добрым узроўні - гэта аксіёма.*

У сваю чаргу, галоўны трэнер УСК «Эрпэт» Мілан Сядзівы сказаў:

*- Мы годна супрацьстаялі «Гродна-93» да 34-й хвіліны, пакуль у баскетбалістаў былі сілы. У нашым складзе адсутнічала шэсць асноўных гульцоў. Таму на большае разлічваць было немагчыма. Мяркую, мясцовая каманда ў чэмпіянаце Чэхіі змагалася за чацвёртае-пятае месцы.*

На пытанне «супраць каго было цяжэй гуляць цэнтравому чэхаў» Ян Пастырык адказаў:

*- Супраць цэнтравога Рамана Сафронава.*

**«Nebl Cballenge Cup»**

26.03 **«Олівер»** (Германія) - **«Гродна-93»** - 84:65 (25:19, 16:12, 27:17, 16:17)

**«Спартак»** (Санкт-Пецярбург) - УСП **«Эрпэт»** (Чэхія) - 86:74

27.03 Матч за трэцяе месца УСП **«Эрпэт»** - **«Гродна-93»** - 72:93 (25:21, 15:23, 17:15, 15:34)

Фінал

**«Спартак»** - **«Олівер»** - 87:68



Аляксандр Барысаў, Мілан Сядзівы, Ян Пастырык (злева направа)

# «Уяўныя людзі» ідуць у людзі

**На гэтым тыдні гарадзенскі рок-гурт «Уяўныя людзі» («Imaging People») зробіць адразу два падарункі аматарам сваёй музыкі.**

30 сакавіка ў аўтарскай праграме Яўгена Фалеева на канале «Культура» а 20-й гадзіне будзе паказаны новы відэакліп на песню «Таямніцы», а саліст гурта «Imaging People» Юрый Дубавік выступіць перад гледачамі ў прамым эфіры. 31 сакавіка ў канцэртнай зале «Гродна» адбудзецца сольны канцэрт пад назвай «Уяўны свет». Ён пачнецца а 19-й гадзіне. Кошт квіткоў - 750 і 1200 рублёў. Канцэрт гурта ў родным горадзе пройдзе ў межах запланаванага на сакавік гастрольнага тура па Беларусі. Апрача Гродна, музыканты наведаюць Ліду, Віцебск, Брэст і Наваполацк.

Паводле словаў саліста «Imaging People» Юрыя Дубавіка (альбо проста Смура), канцэрт у Гродне будзе ўнікальным, таму што гурт выйдзе на сцэну ў вялікім складзе - каля васьмі музыкантаў. На канцэрце не будзе іншых выканаўцаў, аднак плануецца, што ён будзе доўжыцца больш як дзве гадзіны. Паклоннікі гурта пачуюць як старыя ўлюбёныя песні, так і новыя, якія ўвойдуць у наступны альбом.



Саліст гурта «Уяўныя людзі» Юрый Дубавік

Нагадаем, што гурт «Imaging People» прымаў удзел у «Рок-каранацыі-2000». Яго апошні альбом «Выхад у неба» быў сярод намінантаў на «Лепшы альбом года».

Рэгіна Станкуце

# «Незразумелае - смешнае» ад Алега Курпіка

**31 сакавіка ў Гарадзенскай галерэі «У майстра» адкрыецца выстава карыкатураў Алега Курпіка «Незразумелае - смешнае», прысвечаная міжнароднаму Дню гумару.**



Андрэй Курпік - студэнт трэцяга курса матэматычнага факультэта Гарадзенскага дзяржуніверсітэта. Акрамя карыкатуры, захапляецца фатаграфіяй. Гэта ягоная першая выстава.

Адам Гонар

# Не паліце, мужыкі, не паліце

**Непапраўны ўрон прыродзе наносяць выпальванне сухой расліннасці і сельскагаспадарчыя выпальванні, якія забаронены на тэрыторыі Беларусі. Пра гэта гаворыцца ў звароце да жыхароў рэспублікі, распаўсюджаным 27 сакавіка Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.**

Як адзначаюць спецыялісты міністэрства, ад спальвання сухой травы абядняецца відавы склад расліннасці. Там, дзе прайшлі выпальванні травы, няма ранейшага разнатраўя, пачынае буяць пустазелле. У агні пажараў гінуць не толькі расліны і іх насенне, але і насякомыя, жабы, вужы, яшчаркі, гнёзды і выводкі птушак.

Юрый Аляксееў

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Супрацьстаянне з калегамі па працы не прынясе Вам нічога добрага, але і кепскага таксама. Лепей паспрабуйце разыграць кожнага з іх першага красавіка.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Значна працей знайсці памылку, чым ісціну. Разважнасць і пачуццё меры дапамогуць Вам не без выгады перажыць складаны перыяд у Вашым бурным жыцці.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Хочацца нечага надзвычайнага? Паспрабуйце зямінаваць чай з ажынавым варэннем альбо чыстай крынічнай вады. Адчуеце сябе напраўду абноўленым(-ай).

♋ **Рак (22.06-22.07).** У асноўным Вы будзеце занятым(-ая) праблемамі прафесійнай дзейнасці. Але варта пераключацца і на клопат пра сябе, любімага. Бо даражэй за здароўе каштуе толькі лячэнне.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Вы прагнеце забыцца на ўсе справы і знайсці суцяшэнне ў любоўных уцехах? Што ж, не памыліцеся з выбарам аб'екту жаданняў. Мужчына павінен памятаць: чым меней у жанчыны грудзі, тым бліжэй да сэрца яна ўспрыме ўсе да яе заляцанні.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Усе пазайздросцяць Вам першага красавіка. Вам будзе ўдавацца ўсё, за што ні возьмецеся. А ўсё, за што возьмецеся, зробіце сумленна.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Незавершаныя справы будуць ізноў нагадваць пра сябе. А Вы па-ранейшаму будзеце рабіць выгляд, што недачуваеце? Наведайце оталарынголага.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Вас голымі рукамі не возьмеш. Вы ведаеце адказы амаль на ўсе каверзныя пытанні. Да першага красавіка знайдзіце прадпрымальных партнёраў.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Пасябруйце з босам. Не такі страшны квадрат, як яго намаляваў Малевіч!..

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Разбярыцеся, нарэшце, у прычынах няўдачаў, якія Вас падпільноўваюць, без спіртнога.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Засяродзьцеся на неадкладных справах - усё ў Вас атрымаецца: і на працы, і ў асабістым жыцці.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Надайце больш увагі паўнавартаснаму харчаванню. Толькі не эксперыментуйце над сабою. Калі вегетарыянцы любяць жывёлаў, дык чаму яны з'ядаюць усю іх ежу?

## КАЛЕЙДАСПОРТ

### Футбол

Адборавы матч чэмпіянату свету нацыянальных камандаў

Група N5

24.03 **«Украіна»** - **«Беларусь»** - 0:0; **«Нарвегія»** - **«Польшча»** - 2:3; **«Арменія»** - **«Уэльс»** - 2:2

U(21) 23.03

**«Украіна»** - **«Беларусь»** - 1:0 (Монараў - 29)

27.03 **«Беларусь»** - **«Нарвегія»** 1:0 (Кутузаў - 75)

### Баскетбол

24-25.03 Чэмпіянат Беларусі. Серыя плэй-оф, 1/2 фіналу

**«РШВСМ-РВАР»** (Менск) - **«Бярэзіна-Аф»** (Барысаў) - 49:85, 77:82. Вынік серыі - 0:3

**«РШВСМ-Гарызонт»** (Менск) - **«Алімпія»** (Гродна) - 55:66 (Лавец - 15, Зберч - 13, Дрозд 23, Панасюк, Шупляцова - па 15.

**«РШВСМ-Гарызонт»** - **«Алімпія»** - 77:60, (Курсевіч - 15, Дрозд - 14, Панасюк - 12). Лік серыі - 1:2

Наступная гульня адбудзецца ў суботу ў Гродне.

### Хакей

Чэмпіянат Беларусі

**«Хімік-ШВСМ»** (Віцебск) - **«Нёман»** (Гродна) - 0:12; 3:6

**«Нёман»** - **«Менск»** (Менск) - 2:3

Падрыхтаваў Дзяніс Курчэўскі

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве "Гродзенская друкарня" Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Нумар падпісаны да друку ў 16.00 28.03.2001 г. Замова 1031 Наклад 7 739

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзенаму рэдакцыяй дыяпазітыву.
Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей